# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1965

Верасень-
Кастрычнік

Год XIII

№ 5

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1965 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвяртаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIII** **September-Oktober** **Nr. 5 (92)**

**1965**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE., LONDON, N. 12
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XIII ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК № 5 (92)


## Беларуская мова ў лацінскім абрадзе

Усе беларусы прымуць з радасьцю Дэкрэт з дня 9 чэрвеня 1965 г., падпісаны Яго Эмінэнцыяй Кардыналам Леркаро ад імя ўпаважненае Камісіі да спраў літургічных, у якім сказана, што беларуская мова можа ўжывацца ў сьв. Літургіі, адпраўлянай для народу.

Як даведваемся са зьместу Дэкрэту, дазвол ужываньня беларускае мовы ў лацінскім абрадзе атрымаў Яго Дастойнасьць Біскуп Балеслаў Слёсканс, Апостальскі Адміністратар Менскі і Магілёўскі. За гэта ўсе мы выказваем Яму шчырую ўдзячнасьць.

Пры гэтым мы павінны аднак заўважыць, што трэба адрозьніць дазвол на ўжываньне жывой беларускай мовы ў набажэнствах ад самога ўжываньня. Трэба вельмі вялікай развагі і асьцярожнасьці, асабліва ў сьвятых абрадах, пры перакладзе лацінскае мовы на жывую.

На вялікі жаль рэдактар „Žniča" не зьвяртае ўвагі на публічную апінію беларусаў: ён часта ўжывае словы штучна створаныя і прасякнутыя полёнізмамі.

Ня можна такжа прайсьці міма такіх фактаў, што адно гаворыцца вышэйшым царкоўным уладам, а другое робіцца. Прыкладам, у Дэкрэце, аб якім тут мова, сказана, што тэкст беларускае Імшы (Літургіі) да часу будзе з малітаўніка «Голас Душы». Калі аднак параўнаць тэкст з малітаўніка із тым вышаўшым з друку, як дадатак да „Žniča" (Наузорная Імша Сьвятая — Літургія...), дык заўважаецца ў найбольш важных малітвах — (прыкладам, «Веру») — розьніцу.

Праўда, у малітаўніку «Голас Душы» (рымскае выданьне) ёсьць нятолькі друкарскія памылкі, але і недакладнасьці, незразумелыя сказы і дагматычна сумніўныя. Іх трэба было-б паправіць належна і адпаведна. Ці-ж гэта аднак можа зрабіць адзін чалавек, хоцьбы сабе вельмі працавіты? Трэба знаць, апрача сваей, такжа старадаўныя мовы.

Для прыкладу возьмем пераклад ведамай малітвы, якая ўжываецца ува ўсіх хрысьціянскіх абрадах: „Kyrie eleison", славянскае: «Госпадзі, памілуй».

У малітаўніку «Голас Душы» (выд. рымскае) старадаўнае грэцкае „Kyrie eleison" тлумачыцца праз: «Зжалься, Божа, над намі», а ў «Наўзорнай Імшы» тое самае ператлумачана: «Божа, зьмілуйся».

Абодвы тлумачэньні неправідловыя, бо грэцкае „Kyrios" знача «Госпад», а не Бог. Ці ня лепш было-б у г. наз. беларускай Імшы лацінскага абраду папросту затрымаць „Kyrie eleison", або, калі тлумачыць, дык правідлова: «Госпадзе, зжалься», або «Госпадзе, памілуй»?

Калі затрымаемся крыху больш пры гэтай малітве, дык трэба зьвярнуць увагу такжа і на „Christe eleison".

Малітаўнік «Голас Душы» тлумачыць гэты пабожны кліч: «Хрыстэ, зжалься над намі», а «Наўзорная Імша сьвятая...»: «Хрыстэ, зьмілуйся».

Пытаемо: чаму-ж той самы аўтар адзін раз тлумачыць так, а іншым разам інакш?

Далей: хто зь беларусаў ужывае слова «Хрыстэ»? Часам беларусы кажуць: «Хрыстусе» (форма спалянізаваная), або: «Хрысьце» (бліжэй старославянскага), але ніколі «Хрыстэ», бо-ж гэта жыўцом польшчына!

Можна было-б падаць больш падобных прыкладаў, аднак мы спынімся і сьцьвердзім наступнае: усё пазытыўнае, што было ці ёсьць зроблена праз паважанага рэдактара «Зьніча», мы ня толькі прыймаем, але — як агульнае дабро — будзем падтрымліваць і пашыраць. Нямала аднак апошнім часам друкавалася на старонках «Зьніча», што — дзеля таго самага агульнага беларускага дабра — патрабуе здаровай грамадзкай крытыкі і спраставаньня.

Добра паінфармаваны духоўныя ўлады ня могуць дазволіць, каб асабліва там, дзе «Сьвятое Сьвятых», кожны баранаваў, як яму спадабаецца.

Гэта адносіцца ў першую чаргу да перакладу Сьв. Пісаньня і да літургічных тэкстаў — так лацінскага як і старославянскага абраду. Таму мы лічым, што павінны заіснаваць у беларусаў камісіі, а ў іх склад павінны ўваходзіць каталікі і праваслаўныя, а такжа спэцыялісты людзі сьвецкія.

Тады мы абмінём небясьпеку пісаньня і друкаваньня сьвятых тэкстаў лёгкамысна і непрыгатавана.

# КАМУНІКАТ

## ДА ЎСЯГО БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗЯНСТВА Ў СПРАВЕ ЗБОРКІ ГРОШАЎ НА ФОНД РАЗБУДОВЫ ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ЛЁНДАНЕ

Дагэтуль мы зьвярталіся з просьбай дапамагчы сабраць грошы на ўтрыманьне і разбудову Беларускай Школы ў Лёндане. Наша просьба была часткова выслухана як арганізацыямі так і аддзельнымі ахвярнымі асобамі. За дапамогу, якую мы атрымалі, гэтым шчыра ўсім дзякуем.

Аднак мы ёсьць змушаны і надалей прасіць нашых суродзічаў, прыхільнікаў і прыяцеляў аб дапамогу.

Дзеля таго аднак, каб разьвіцьцё школы было больш абясьпечана, а сама дапамога больш спраўная, паўсталі ў розных краінах камітэты або цэнтры зборкі грошаў.

У гэтым камунікаце падаём да ведама, дзе і як праводзіцца зборка грошаў.

### 1. ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ

Тут зарганізаваўся адумысловы Камітэт, якога ганаровымі сябрамі між іншымі зьяўляюцца Яго Эмінэнцыя Кардынал Ян К. Гінан; Яго Дастойнасьць Эдвард Эльліс, Біскуп Ноттінгам; а. Леў Гарошка, Рэктар Беларускай Кат. Місіі ў Англіі; сп-ня М. Маккмільлян і інш. Ёсьць надрукаваная асобная ліста для зборкі ахвяраў, упрыгожаная гэрбам школы сьв. Кірыла. Вэстмінстэрская Курыя згадзілася адчыніць асобны аддзел у сваім рахункаводзтве п. н. „The Byelorussian School Fund“.

Таму ўсе грошы сабраныя ўпаважненымі асобамі ў Вялікабрытаніі павінны перасылацца на наступны адрас:

Righ Rev. Mgr. A. Rivers, Byelorussian Fund, Archidiocese of Westminster, Finance Office, 33 Wilfred St., London, S. W. 1. (Gt. Britain).

### 2. ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЭРЫКІ

У Злучаных Штатах Амэрыкі ў месяцы жніўні быў зарганізаваны Беларускі Эдукацыйны і Дапамаговы Фонд, у ўправу якога ўвайшлі Я. Д. Біскуп Ч. Сіповіч, Айцец Уладзімір Тарасэвіч, сп-ня Вера Рамук і сп. Антон Беленіс. Управа сама або праз адпаведна ўпаважаныя асобы будзе праводзіць зборку грошай для дапамогі школе сьв. Кірыла ў Лёндане.

Беларускі Эдукацыйны і Дапамаговы Фонд, хаця ў першую чаргу мае на мэце дапамагчы беларускай школе ў Лёндане, аднак яго дзейнасьць можа сягаць шырэй і яго ўправа зможа дапамагаць падобным школьным установам.

Гэты Фонд афіцыяльна будзе называцца: „Byelorussian Relief Fund, Christ the Redeemer Church“.

Ахвяры ў Злучаных Штатах просіцца высылаць на адрас:

Byelorussian Relief Fund,  
Christ the Redeemer Church  
3107 W. Fullerton Ave., Chicago, Ill. 60647

Кожны ахвярадаўца атрымае квіт, які будзе пацьверджаньнем таго, што грошы на празначаную мэту былі дасланыя, а **також будзе даваць права звальненьня ахвярадаўцы ад дзяржаўнага заработнага падатку.**

### 3. КАНАДА

У Канадзе той самы Фонд на дапамогу школе сьв. Кірылы Тураўскага называецца: „The Byelorussian Charity Fund“.

На просьбу беларускай дэлегацыі Яго Дастойнасьць Архібіскуп Піліп Покоск згадзіўся адчыніць адумысловае конто ў курыі архідыяцэзіі Торонто дзеля дапамогі ў арганізаваньні нашага Фонду. Гэта ёсьць вельмі важнай справай дзеля розных прычын, а также і дзеля таго, што кожны ахвярадаўца атрымае паквітаваньне ад успомненай Курыі, **якое будзе важным дзеля звальненьня ахвярадаўцы ад дзяржаўнага заработнага падатку ад ахвяраванай ім сумы.**

Просім тады ўсіх суродзічаў Канады высылаць ахвяры для нашай школы на наступны адрас:

The Byelorussian Charity Fund  
Archidiocese of Toronto, Finance Office,  
55 Gould Street, Toronto 2, Canada.

Можна також ахвяры перасылаць праз сп. А. Маркевіча (127 Dovercourt Rd., Toronto 3, Ont.), які перакажа на вышэй успомнены Фонд пры Торонцкай Курыі.

### 4. ІНШЫЯ КРАІНЫ СЬВЕТУ

Тыя беларусы, што пражываюць у іншых краінаў сьвету, якія жадалі-б дапамагчы нашай школе ў Лёндане, могуць высылаць грошы або на пададзеныя вышэй адрасы ў Вялікабрытаніі, Злучаных Штатах Амэрыкі і

ў Канадзе або беспасрэдна на адрас айца Язэпа Гэрмановіча:

Rev. J. Hermanovič, Marian House,
Holden Avenue, London, N. 12, Gt. Britain.

Дарагія Суродзічы!

Наша першая школка на чужыне паўстала дзякуючы ініцыятыве і вялікай ахвярнасьці добрых людзей. Падтрымалі яе беларусы бацькі. Хутка яна пачала разьвівацца: лік вучняў узрос, стала нам не хапаць месца ў адным, хаця й даволі вялікім і прыгожым доме. Здарылася нагода: прадаваўся побач дом суседа. Ніхто ня сумневаўся, што гэты дом трэба нам купіць такжа для школы, хаця і за пазычаныя грошы.

Сяньня мы зьвяртаемся да Вас з гарачай просьбай: дапамажэце сплаціць пазыку (£ 11,000.—) і надалей утрымаць і разьвіваць усім нам дарагую ўстанову.

Дапамажэце ўсе, хто як можа! Час аднак, каб беларусы, падобна як і іншыя народы, самі ўтрымоўвалі свае ўласныя ўстановы, якія дбаюць аб тое, каб ужо ў першым пакаленьні не загінула наша моладзь у чужацкім моры.

Школа сьв. Кірылы ў Лёндане адчыненая для ўсіх беларускіх хлапцоў. Розьніца рэлігіі ці партыйнай прыналежнасьці бацькоў ня будзе перашкодай. Важна тое, каб дзеці мелі адпаведную падрыхтоўку і ўзрост.

Браты, дапамажэце! Мы лічым на Вас.

† *Чэслаў Сіповіч, Біскуп*
Ап. Візытатар Беларусаў

Рым, 14 верасьня 1965 г.



*Інтэрнат сьв. Кірыла*

---

*а. Я. Гэрмановіч*

# РЭФАРМАТАР

## (ДЫЯЛЁГ)

А д  Р э д а к ц ы і. Ужо ад самага пачатку кніжка «РЭФАРМАТАР» выклікала зьдзіўленьне і зьбянтэжанасьць, закіды і пытаньні. Аднак, у пляне аўтара не ляжыць, каб адказваць адразу і кажнаму Чытачу — тымбольш, што з бегам IV Сэсіі Сабору шмат чаго выясьніцца ў справаздачах.

Зразумела, што парушаныя ў гэтым «Дыялёгу» справы ня могуць прайсьці няпрыкметна міма нас, беларусаў: яны жыва закранаюць нас асабіста і нас, як народ, які належыць да агульна-людзкой сям'і, якой мы павінны быць жывымі ўдзельнікамі. Мы ня толькі будзем прыймаць чужыя пастановы, але павінны даваць свой голас і прыкладаць руку да супрацы.

Аўтар вельмі цікавы, ці ягоныя думкі з наступных двух артыкулаў узбудзяць у беларусаў рэзананс для «мабілізацыі добрае волі»?

**(Працяг)**

а. З а х а р  сядзеў пры адчыняным вакне і заслухаўся ў салаўіную песьню. Быў вечар. Сонца зайшло. Цямнела. Усё неба было зацягнута шэрай хмарнаю пялёнкай, а толькі на захадзе цягнуўся паясок ружовага сьветлага неба. Уся прырода зьвярыная і птушыная замоўкла, вецярок ледзь-ледзь варушыць галузіны дрэваў, а лісткі ціханька шапталі вячорныя пацяры.

Так бывае ў вялікім тэатры, калі выдатны сьпявак зачаруе неспакойны людзкі натоўп: тады заціхне ўвесь гоман і кажны чалавек чуе як б'ецца сэрца.

а. З а х а р  забыўся аб усіх клапотах дня: ён не бачыў сьпевака-салаўя, але слухаў-бы яго, здаецца, ўсю вечнасьць!

Так запозьненыя госьці тэатру, купіўшы білеты, ня сьмеюць праходзіць па радох крэс-

лаў — шукаць свайго месца: стаяць у праходзе, і хоць не бачаць сьпявака, не адрожніваюць слоў, але ўпіваюцца самой мэлёдыяй і слухаюць-слухаюць...

Сьпявак трымае зьвіток нотаў у руках і ў ноты зусім не глядзіць, а пяе ўсімі грудзьмі і ўсею душою — іграе, як на струнах, на людзкіх душах: даходзіць да найвышэйшага крэшчэндо — аж кроў замірае ў жылах слухачоў!

І салавей мяняе мэлёдыі і, здаецца паўтарае адно-й-тое, але кажная зваротка гучыць начай — штораз прыгажэй і няма канца тым чароўным варыянтам...

— Не надарэмна салаўя называюць райскаю птушкай, — падумаў Захар.

— І насадзіў Бог рай у Эдэме на ўсходзе, і памясьціў там чалавека, якога стварыў». (Кніга Быцьця 2, 8).

— І стварыў Гасподзь Бог з зямлі ўсякую жывёліну палявую і ўсіх птушак паднябесных». (2, 19).

А драпежны каршун і падступны кот чакаюцца, каб зьнішчыць артыста-салаўя, у самым разгоне ягонай песьні і ўсадзіць кіпцюры ў яго гарачае сэрца.

А людзкая высокая навука высіляецца, каб зьнішчыць мёртвай атамнай энэргіяй жывое чалавецтва...

*

О, Жанчыны і МАТКІ ДЗЯЦЕЙ, апэлюю да вас! Ці вы пазволіце, каб сьляпая навука і палітыка нішчыла вашых наймілейшых? У Імя Хрыста — прашу Вас — пратэстуйце!

## ЖЫЦЬЦЁ АБО СЬМЕРЦЬ

а. АНДРЭЙ: — Калісьці гэтае пытаньне было пастаўлена першым людзям у Раі-Эдэме і яны, паслухаўшы злога духа, каторы абяцаў іх зраўнаваць з Богам, выбралі сьмерць — сабе і сваім дзецям!

Як існуе людзкое племя, людзі спадзяваліся, што поўнае шчасьце можна здабыць толькі вайною. Асабліва выдатныя заваёўнікі ўскладалі надзеі на вялікія войны, якія мелі ім даць панаваньне над цэлым сьветам. — А вось цяпер, калі вучоныя вынайшлі атамнае аружжа, вайна стала немагчымай, бо ад яе могуць згінуць і абодвы праціўнікі і наагул усё жывое на сьвеце.

Значыць, ізноў мы стаім перад рашучым выбарам — жыцьцё або сьмерць? Інакш кажучы — Бог або бомба?..

Як мы ужо разважалі — і ад голаду і ад бомбы — жыцьцё на сьвеце стане немагчымым. Атамная бомба вісіць над нашаю галавою на валаску!

а. ЗАХАР: — Ах, Божа наш, Божа! да чаго мы дажыліся?!

а. АНДРЭЙ: — Дык што значаць усе нашыя рэформы, пляны, праца і турбацыя? Ці якую маюць вартасьць нашыя нэрвы, страх, злосьць, сьлёзы, або сьмех і радасьць?

Калі-б гаспадар ведаў, што ягоны дом акружаны ворагам і падпалены, ці-ж рабіў-бы плян перабудовы і аздобы гэтага дому?

Калі-б капітан ведаў, што параплаў мае вялікую прабітую дзюру, ці-ж рабіў-бы плян заўтрашняга канцэрту?

А наш загрожаны сьвет ведае, што пагражае катастрофа, але прывык да небясьпекі і спакойна займаецца дзіцячымі пацехамі.

а. ЗАХАР: — Але скажы — на Божую Міласьць, што мае няшчасны сьвет рабіць? Лямантаваць ня хоча, дык — здурэўшы — танцуе...

а. АНДРЭЙ: — І адно і другое не паможа — трэба рабіць штосьці разумнае.

а. ЗАХАР: — Але што? што такое!..

а. АНДРЭЙ: — Калі такая бомба вісіць над галавою, дык усе людзі павінны пільна думаць, як асьцярожна яе зьняць і зьнішчыць.

Папа Ян XXIII загадаў, каб праціўнікі больш не дражнілі сябе ўзаемна, але пастараліся дагаварыцца, бо іншае рады няма!

а. ЗАХАР: — Але як дагаварыцца з такімі шалёнымі людзьмі як быў Гітлер і Сталін?

а. АНДРЭЙ: — На шчасьце, Бог сагнаў іх са сьвету! Аднак і цяпер кіруе палітыкай нямала паўвар'ятаў, з якімі гаварыць палюдзку ня будзе магчыма.

а. ЗАХАР: — Але ты, Андрэй, разваж і тое, што можаш давесьці людзей да роспачы, не даючы ім здаровае рады!

а. АНДРЭЙ: — Дык давайце будзем шукаць такой рады супольна! Я і Вы і ўсе людзі «добрае волі», як радзіў Ян XXIII: будзем аднадушна ратаваць сябе і грэшны сьвет — такі, як і мы, грэшнікі.

а. ЗАХАР: — Ну-ну-ну, скажы, як трэба зрабіць?

а. АНДРЭЙ: — Ёсьць пагаворка, што «страх мае вялікія вочы», аднак мы мусім сьмела яму ў вочы глянуць: скарэй дагадаемся, як бараніцца.

Калі тымчасам дагаворы цягнуцца і рвуцца, калі атамная бомба узрастае і множыцца, бо ужо Англія і Фарнцыя яе здабылі, а Кітай — прабуючы — грозіць усяму сьвету, дык давайце будзем шукаць у ва ўсім сьвеце і мабілізаць добрую волю!

а. ЗАХАР: — Гавары больш зразумела! Як-жа «мабілізаваць» добрую волю?

а. АНДРЭЙ: — Добрай волі на сьвеце нямала, нават і благія людзі маюць значны працэнт добрае волі. Але яна расцярушана і людзі сваёй добрай волі стыдаюцца і яе хава-

юць, а благую паказваюць і рэклямуюць. Гэтак злы дух перамагае ўсякае дабро. — Успомніце, што казаў Гасподзь: «Няхай вашае сьвятло сьвеціць перад людзьмі, каб бачылі вашыя добрыя ўчынкі і хвалілі Майго Айца, які ёсьць у небе.

І успомніце, як нягодны Сталін публікаваў сваё «дабро»: седзячы на атамных бомбах, абвяшчаў згоду і «мір усяму сьвету». І даваліся з яго рукі «нагароды Сталіна» і прэміі за прапаганду ягонага міру: гэтак падступная воля падбівала народы сьвету пад інтрыгі бязбожнікаў.

а. ЗАХАР: — Дык ці ня думаеш ты, што і нам трэба зьбіраць хрысьціянскія подпісы за мір? Але што гэта паможа?

а. АНДРЭЙ: — Думаю, што нічога не паможа! Затое думаю, што нам трэба арганізаваць людзей д о б р а е волі, якія возьмуць на сябе АДКАЗНАСЬЦЬ перад Богам за грэшны сьвет.

а. ЗАХАР: — Што кажаш? Як можна адказваць за цэлы грэшны сьвет? Кажны чалавек ледзь можа адказаць перад Богам за самога сябе.

а. АНДРЭЙ: — А Вы помніце, як Майсей заступаўся за жыдоўскі грэшны народ і ахвяраваў сябе. Казаў Богу: «Мяне пакарай, мяне забі, але даруй народу! Так, хоць зь вялікай труднасьцяй, выпрасіў у Бога л а с к у прабачэньня.

Такую ахвяру, але бесканечна сьвяцейшую — за ўвесь сьвет і за кажнага чалавека — даканаў Ісус Хрыстос: цярпеў дабравольна і памёр на крыжы — затое ўскрос у славе.

Таксама Апосталы памерлі як мучанікі за Хрыста і за людзей сьвету. А Павал гатоў быў прыняць пракляцьце за свой народ.

Таксама папа Ян прыняў цяжкую сьмерць за згоду і мір між народамі. Хоць увесь сьвет маліўся за здароўе Добрага Яна, але Бог прыняў ахвяру і паслаў яму сьмерць.

І ў жыцьці здараецца ,што добрыя людзі (нават няверуючыя) ахвяруюць сваю кроў, каб ратаваць няшчасных. —

Дык цяпер Вам ясна, што трэба здабыцца на поўную ахвяру за цэлы сьвет, які заслужыў на Божую кару.

а. ЗАХАР: — Як-жа ты разумееш — «пасьвяціць сябе»?

а. АНДРЭЙ: — Значыць, аддаць сябе перад Госпадам Богам ім усё сваё здароўе, час, працу, адпачынак, цярпеньне і малітвы, ж ы ц ь - ц ё і с ь м е р ц ь у такой сьвятой інтэнцыі:

Каб Бог сьцярог сьвет ад г о л а д у і ад б о м б а ў !

Каб Бог даў грэшнікам — няверучым, атэістам, бязбожнікам — наварот,

Каб Бог даў з г о д у між народамі і дзяржавамі: справядлівасьць, незалежнасьць, свабоду рэлігіі, а між людзьмі — пашану чалавека.

а. ЗАХАР: — О, ты нязьмерна шмат просіш! Дый зрэшты, уся справа вельмі небясьпечная: грахі — то твае будуць табе лічыцца на Страшным Судзе, а заслугаў мець ня будзеш, бо аддаеш іх за грэшны сьвет. — Дык як ты не пабаішся — такі пусты — паміраць?

а. АНДРЭЙ: — Так. Вы сказалі праўду! мая рызыка непамерна вялікая. — Але я — дзеля такой нябывала важнай справы — гатоў кінуцца на верную сьмерць, а нават... на Божы Суд! і рызыкую ўцягваць другіх людзей у сваю неабыякую ідэю.

а. ЗАХАР: — А ці маеш на гэта права?

а. АНДРЭЙ: — З баязьняй Божай — думаю, што маю права.

Бо Вы толькі падумайце: мільёны маладых, здаровых людзей (цьвет народу!) ішлі і беглі — з ахвотай і гарачкай — за нягоднымі бязбожнікамі — за Гітлерам і Сталіным — з мэтаю забіваць другіх маладых людзей. І самі гінулі на прызыў тых бандытаў... А мы, веруючыя людзі, аддаем сябе Госпаду Богу, каб р а т а в а ц ь людзей — цэлы сьвет!

а. ЗАХАР: — Так, важная справа — вялікая справа! — Але ці маеш ты права рызыкаваць сваім збаўленьнем? Каб ня было тут якога грэху?

а. АНДРЭЙ: — Не, ніколькі! Спытайцеся самых моцных тэалёгаў: яны таксама скажуць, што рызыка ёсьць, але граху няма. Затое ёсьць заслуга глыбокага г э р а і з м у.

Я іду, як-бы зажмурыўшы вочы: кідаюся ў бяздоньне Божага міласэрдзя. Думаю сабе так: «Тут няма майго капрысу, ні лёгкамыснасьці, а ўжо-ж Бог — паводле сваёй мудрасьці і ласкі — пашкадуе мяне на Страшным Судзе. А з Богам чалавек можа важыцца на ўсё канечнае.

а. ЗАХАР: — Гм... яно-то так. Але...

а. АНДРЭЙ: — А вось што сказаў адзін пабожны пісьменнік: «Бяз Бога нічога ня зробіш, але і Бог бяз цябе нічога ня зробіць» (Тут ідзе аб справы нашага збаўленьня).

а. ЗАХАР: — О, гэта нешта новае! Ці не сказаў ён тут чаго рызыкоўнага?

а. АНДРЭЙ: — Анітрохі! Хрыстос, уступаючы ў неба, перадаў Апосталам «усякую ўладу», а Пятру «ключы да неба». І сам Хрыстос толькі памагае зь неба праз Сьвятога Духа, а працаваць на неба мусіць кажны сам.

І так Апосталы вялі далей Хрыстовую Місію — аж да самай лютай сьмерці. Гэтаксама і мы павінны пасьвяціць розум і волю — «падняць крыж на кажны дзень».

Відавочная Місія Хрыста на зямлі закончаная: Збаўленьне дакананае, а вонкавая дзейнасьць у Царкве перададзеная нам, ягоным

слугам — япіскапам, сьвятарам і ўсяму хрысьціянскаму народу. — Гэтак пацьвярджаецца пастаўленая тэза, што «Бог без нас нічога ня зробіць».

а. ЗАХАР: — Бачыш? Хоць мы ўсё разумеем, але Божую волю прыймаем марудна, ходзім за Хрыстом баязьліва, як блудныя авечкі. Калі Хрыстос дамагаецца ад нас ахвяры з крыві і жыцьця, дык мы таргуемся з Богам, працуем вяла, або ўцякаем ад справы, як той капрысны прарок Іона.

Вось і цяпер я ўздумаў перарваць дыскусію і адлажыць на пару дзён канец нашай гутаркі, бо трэба і передумаць гэтулькі незвычайных праблемаў, а галава і так ужо цяміць няважна.

а. АНДРЭЙ: — Прыйду да Вас за тры дні, у нядзелю а гадзіне пятай па паўдні. — Аставайцеся з Богам!

а. ЗАХАР: — З Богам!

Захар зьбіраўся яшчэ ў позны вечар на паўгадзінкі на шпацыр, але пачынаўся дождж, лянівы дождж, які ужо з паўдня зьбіраўся праліць свае дробныя кропелькі, дык доктар філязофіі . . . мусіў астацца дома і тут толькі зьмеркаваў:

Можа і добра, што дождж, бо я яшчэ не зрабіў сваёй аднатацыі!»

## БОЖЫ ГОЛАС

а. ЗАХАР: — Думаю, што мы з табой добра зрабілі, перарваўшы апошнюю размову: у мяне знайшлося некалькі моцных закідаў, якія могуць зламаць твой праект.

У цябе гарачы тэмпэрамант: зьвяжаш сябе і другіх на ўсё жыцьцё, а пасьля будзеце мучыцца, што нябачна шлюбавалі Богу.

Я ўжо перажыў дзьве Вялікія войны і ўважаю, што людзі паслабелі фізычна і духова — ад іх нельга вымагаць цяжкое адказнасьці. І дзіўна вялікае мноства людзей зыходзіць з розуму і нямала канчае самагубствам. Гвалтоўна шукаюць новых наркотыкаў — самых шкодных, каб адурэць хоць на кароткі час, пакуль адчыніцца дарога на месяц.

а. АНДРЭЙ: — Ну, няхай будзе так! Калі я такі гарачы, дык буду пытаць добрай рады ў спакойных і марудных людзей — якраз такіх як Вы, дарагі Айцец.

І пэўна, што слабы і грэшны чалавек павінен баяцца нясьпелай рызыкі: аднак паважныя пастановы трэба сьмела і рашуча ўводзіць у жыцьцё, як Апосталы прынялі Хрыстовую Місію, якая пагражала ім мукамі і сьмерцяй.

Калі я чую Божы Голас, дык маю ў Богу надзею, што і іншыя пачуюць такісамы голас і так пачнём Божую справу.

а. ЗАХАР: — А хто-ж будзе адказваць за мэты вашае арганізацыі?

а. АНДРЭЙ: — Адказнасьць перад Богам і Царквою панясуць усе ўдзельнікі ў роўнай меры за сябе і за ўсіх.

Падабенства можам узяць з грэцкай легенды аб Атлясе:

Тытан Атляс ад вякоў трымаў на плячах небасхіл у горах паўночнай Афрыкі: такая была воля багоў. Аднак яму хацелася адпачыць і ён зручна прывабіў асілка Гэркулеса патрымаць для перапынку небасхіл. Гэркулес адважна падставіў плечы, але зара праканаўся, што тут ня жартачкі! — Дык убачыўшы Атляса, пачаў прасіць, каб той памог яму паправіць цяжар на плячах. — Цяпер вось і Атляс даўся на падман: як толькі Атляс падставіў на хвіліну плечы, Гэркулес вышмыгнуў і кінуўся на ўцёкі! — Так бедны Атляс і да сяньня трымае небасхіл.

Дык вось мы, наш гурток, маемо сьмеласьць «падставіць свае плечы» пад цяжар нашае плянэты, каб ратаваць на ёй жыцьцё, загрожанае голадам і атамнай бомбай. — Ад часу Збаўленьня сьвету трымае гэты цяжар Сам Ісус Хрыстос — сваім крыжом і сваёю сілаю. Хоць яму аднаму гэта не цяжыць, але жадае мець у помачы ўсіх Сьвятых у небе і на зямлі. І таксама Гасподзь прыклікае на помач і нас грэшных, каб бралі «свой крыж на кажны дзень і ішлі за Ім». Дзеля вялікіх грахоў сьвету — Бог мусіць сьвет караць, так што пагроза голаду і бомбы можа сапраўды споўніцца над людзьмі. Аднак людзі могуць ратаваць адны другіх сваёй пакутай і добрымі ўчынкамі —словам — тут неабходна знайсьці «дзесяць справядлівых», як Бог казаў калісьці Абрагаму. Але там не знайшлося нават дзесяці і Садома і Гамора згінулі ад агню.

Дык мы важымся падняць крыж дабравольна: хочам стаць пад крыжам як стаяла Божая Маці, а пры ёй Апостал Ян і пакутніца Магдалена.

Праўда, гэты цяжар не пад нашую сілу, але «з намі Бог» і нас падтрымаюць людзі «добрае волі». — Гэтак будзем мабілізаваць грамадзкае сумленьне сьвету супраць атамнага аружжа — аж яно будзе цалкам зьнішчана!

а. ЗАХАР: — Бачыш? Гэркулес адскочыў ад нязноснага цяжару. А вы такія героі . . .

а. АНДРЭЙ: — Так, нам будзе дужа цяжка, асабліва спачатку, пакуль яшчэ будзем малою грамадкай. І людзі неахвотна прызнаюць новыя думкі і ідэі, калі вымагаюць ахвярнай працы: лягчэй на ўсё труднае махнуць рукой, паківаць галавою, або паблажліва пасьмяяцца, а пасьля адступіць у бок і забыцца аб такой справе, празваўшы вынаходцу

наіўным дзіваком. Але я спадзяюся вялікае Божае помачы, бо пачынаем Божую справу.

І напэўна нашая гераічная ідэя будзе ўцягваць усё больш і ўсё лепшых людзей сьвету. — Калі на ратунак малога дзіцяці з вады ці з агню ахвярныя людзі кідаюцца з рызыкай жыцьця, — а тут справа датычыць цэлага людзкога роду. — Няхай толькі добрыя людзі зразумеюць нашую ідэю, дык ахвотнікаў не забракуе!

а. ЗАХАР: — А ці маеш ужо апрацаваны статут і адпаведных кандыдатаў?

а. АНДРЭЙ: — Магу пахваліцца, што не маю ніякага статуту, ні праграмы, ні кандыдатаў. Толькі, калі зьявяцца кандыдаты, тады будзем абдумываць статут. . сам не пачуваю ў сабе ані сілы, ані адвагі і мушу сказаць з пpapoкам Іерэміям: «О, Госпадзі Божа! я ня ўмею гаварыць (1, 6), але я прakananы, што Бог «укладае гэтыя словы ў мае вусны» (19), бо страшэнныя падзеі пагражаюць нашаму сьвету.

а. ЗАХАР: — Так гэта усё дзіўна, што я ўжо ня ведаю, як табе радзіць і што аб усей справе думаць. І стрымліваць цябе ня сьмею. — Дык няхай дзеецца Божая воля і з табою і з тымі, якія да цябе прыйдуць. І я буду маліцца, як патраплю, каб памагаў табе ў тваіх намерах Сам Ісус Хрыстос.

а. АНДРЭЙ: — Вялікі Вам дзякуй і аставайцеся з Богам!

а. ЗАХАР: — Ідзі з Богам!

*

Тут а. Захар так задумаўся, што забыўся нават павячэраць і запісаць усю размову ў свае аднатацыі. І толькі на трэці дзень ачухаўся ад цяжкіх думак і напісаў а. Андрэю:

«Пасьля немалой развагі я пастанавіў прасіць цябе: запішы мяне як першага кандыдата ў тваю прышлую арганізацыю, але толькі часова — на пробу. Ведама, буду адносіцца крытычна да ўсіх тваіх праектаў у далейшым нашым дыспуце.

а. Захар, Дохтар філязофіі
і кананічнага права

**(Далей будзе)**

# *Дзіцячы Фальклёр*

«ДЛЯ МАЛЫХ ДЗЕТАК» — ВЫД. ЗАРАНКА. НЬЮ ЁРК, 1965.

Аўтар І. Н. піша: «Посьле вялікіх высілкаў і затраты вялікіх сродкаў вышла ў сьвет гэтая кніжачка. Усё рабілася для таго, каб дапамагчы ўратаваць нашых маленькіх дзетак ад нацыянальнай сьмерці. Ці будзе дасягнута мэта гэтых нашых мараў?

Гэты зборнічак нашага дзіцячага фальклёру служа для хатняга чытаньня. Праўда, пачатак зборнічка далёка папяраджае школьны век дзіцяці, бо-ж калыханкі хутчэй тарнуюцца да матак чымся да дзяцей. Але, здаецца, ня блага было-б, калі-б маткі навучылі сваіх дзяцей-дзяўчатак сьпяваць гэтыя калыханкі, калі яны будуць калыхаць сваіх лялек».

*

РЭДАКЦЫЯ: У нас ёсьць ЛЕМАНТАР таго-ж Аўтара, выданы ў 1964 г.: Можна тут купіць на месцы, або выпісаць поштай. Абедзьве кніжкі вельмі добра адпавядаюць назначэньню: зьмест жывы і цікавы для дзяцей, а нат' і для старшых. Шмат ілюстрацыяў, а ў «Дзіцячым Фальклёры» — песьні з нотамі.

# Беларуская Гравюра ў Дрэве

## (XVI Ст.)

Юдиѳь вдовица отсече главу Олоферну воеводе



Книги Іюдиѳь вдовици починаються • Зуполне выложены на руский язык докторомъ Францискомъ Скориною, изъ славного града Полоцька • на чти богу ко чти, и людемъ посполитым к научению

Une page de la Bible blanche-ruthénienne, publiée en 1519 à Praga.
Gravure sur bois: JUDITH AVEC LA TETE DE HOLOPHERNE.

*Жыдоўская гэраіня, князёўна Юдыта, адсякае галаву Алаферну, каб вызваліць свой народ. Вопратка князёўны і яе служанкі малёваны памастацку. Асаблівую ўвагу прыцягваюць акуратна ўложаныя і рытмічныя складкі вопраткі. Юдыта мае на галаве прыгожы чапец, які ў тым часе насілі на Ўсходзе жанчыны з шляхоцкіх родаў. Цікавыя так-жа рукавы служанкі. Паставы абедзьвюх жанчынаў, іхныя поўныя вымовы аблічча, ёсьць падзівугодныя для гравюры тых старых часоў. Юдыта, трымаючы адною рукою меч, а другою галаву Алаферна ,мае паставу сілы і наважанасьці, а пастава служанкі зусім адменная. У глыбіні відаць умацаваны горад, укранаваны вежамі і багатымі шчытамі дамоў у стылю рэнэсансу, які ў тым часе быў шырока распаўсюджаны на Беларусі. На першым мейсцы з левага боку знайходзіцца гэрб Скарыны.*



Книга светого Иова починаетсѧ еже словеть Іовъ • Зуполне выложена докторомъ Францискомъ Скориною с Полоцка

Гравюра Скарыны да кнігі «Иов».

*Іоў бяз вопраткі на сваім ложы цярпеньня, мучаны няшчасьцямі, тады як ягоныя прыяцелі суцяшальнікі захоўваюцца пасыўна. Хаця рысунак ня мае такога мастацтва, як іншыя гравюры Ф. Скарыны і не захавана пэрспэктыва, аблічча і поза Іова выказваюць ягонае доўгае цярпеньне і яго давер Божай волі. Дзеравянны ўзыслон дадае сцэне прыемны хатні характар.*

*Др. Я. Станкевіч*

# РОМА, ЭККЛЕЗІЯ, ІКОНЫ

Дзівосы бываюць у нас. Адзін сьвятар, будучы вельмі аброчны — мала зарабляючы, выдаець каля 60 даляроў у месяц на выдавецтва беларускае — можа быць гэтага прыкладам іншым. Дзівосы, ведама, ня ў гэтым, а ў наступным у яго і ў другога. У паважанага сьвятара гэтага, на жаль, блага з роднай мовай. Народную — сваю мясцовую мову беларускую, жывучы ўвесь час на чужыне, ды ня пішучы, ён хіба на палавіцу забыўся, а літаратурнае мовы беларускае ня вучыўся. І вось ён важыўся два словы беларускія адмяніць на іншыя. Першым із гэтых словаў ё «Рым», адмененае ім на «Рома», бо Італьянцы сталіцу сваю гэтак завуць. Ён маў-бы пацікавіцца, чаму Беларусы кажуць «Рым», бо справа датыкаецца мовы беларускае. Калі-б пацікавіўся, дык даведаўся-б, што яшчэ у мове праславянскай, з каторае ўсе цяперашнія мовы славянскія, замест «Рома» вымаўлялі «Рым», затым гэтак ё цяпер у ўсіх мовах славянскіх. Калі-б рабіць так ізь іншымі словамі, як ён зрабіў з «Рымам», дык трэ' было-б, прыкладам, замест «князь», «хлеб», «пенязь» (найдрабнэйшая манэта калісь у нас ужываная) ужываць «кунінг», «гляйфс», «пфэнінг», бо гэтак было у мове германскай, з каторай гэтыя словы пераняты да мовы праславянскае.

У чужых, перанятых да мовы праславянскае словах, сталіся зьмены подле яе асаблівасьцяў, а нам спалі такія словы ўжо ператоранья. Ня лічыцца з гэтым, адмяняць іх на нязьменныя хормы чужых словаў, знача ня лічыцца зь істасьцяй мовы свае. Бо мова беларуская складаецца з таго, што спала ёй з мовы праславянскае ды з прыдбанага за апрычоага жыцьця свайго.

Што адмена «Рыму» на «Рому» дзікая, відаць таксама з таго, што аўтар адмены спыніўся на «Роме», а ўжо прыметніка «ромскі» ад «Ромы» і «Рамляніна», жыхара Ромы, у яго ня бачым, прыметнік ё «рымскі».

Той самы сьвятар, яшчэ слова «касьцёл» — з чэскага «костэль», каторае з лацінскага „castellum“ — малы горад, гарадок (рас. «крепостца») адмяніў на «эклезія». Згодна із сваім значаньням лацінскім, у мове чэскай «костэль» знача «сьвятыня» (будынак), бо ў старавеччу сьвятыні былі заразом абароннымі месцамі. У мове нашай і ў польскай значаньне слова «касьцёл» пашыралася й на (каталіцкую) царкву як арганізацыю. Такім парадкам тут слова даўно перанятае й усім зразумелае адменна на таксама чужое, нам новае, незразумелае. Адно тады варта аддаліць барбарызм, калі замест яго дамо слова свае. Таксама й тут прыметніка ад «эклезія» не сустракаем.

Колькі год таму, а. Леў Гарошка напісаў у «Божым Шляху», што іконамі завуць абразы аднае малярскае школы. Зь лягкое рукі ягонае іконаю пачалі зваць у нас некаторыя кажны абраз сьвятога.

«Ікона» слова грэцкае («айкон») і ў мове грэцкай яно азначае кажны абраз, незалежна ад школы, ды як абраз сьвятога так праклятога, як чалавека так і зьвера. Прыкладам у грэцкім арыгінале Евангелі сьв. Мацьвея 22 : 20 і Маркі 12 : 16 іконаю названы малюнак цэсара на манэце, у ваб'яўленьні сьв. Яана апостала 12 : 14 іконаю названы абраз зьвера.

Значыцца, грэцкае слова «ікона» мае значаньне сусім такое, як беларускае абраз, і мы, маючы свае, ані не патрабуем пераймаць чужое.

Перанятае слова «ікона» да мовы расійскае адзяржала там толькі значаньне абраза сьвятога, сьвятых. Прычына: калі які народ ізь ніжшай культураю пераймае словы ад народу з культураю вышшай, дык часта прыдаець такія словам значаньне вышшае. Гэтак, прыкладам, «обыватэль» у мове чэскай знача «жыхар», але перанятае зь яе да мовы польскай знача ў ёй «грамадзянін». Пераймаць слова «ікона» ў яго значаньню расійскім знача пераймаць русыцызм, расійскі гэленізм.

*Рэдактар*

# Каму патрэбна такая пакора?

Усе людзі на ўсім сьвеце паказваюць і рэклямуюць усё сваё добрае, а благое хаваюць і яго сароміяцца. Толькі адзін вынятак становяць Беларусы! Мы — наадварот... Нам, праўда, памаглі ў гэтым суседзі, якія нам тлумачылі, што паказваць дабро — гэта ё фарызэйства. А тымчасам фарызэйствам Хрыстос называў самахвальства, асабліва такое, калі хто паказваў свае заганы, называючы іх цнотамі. І Беларусы гэтага вельмі баяцца і баяцца справядліва.

Аднак той самы Хрыстос казаў: «Хай сьвеціць вашае сьвятло перад людзьмі, каб бачылі вашыя добрыя ўчынкі і хвалілі Айца Майго». І таксама казаў, каб не хавалі лямпы пад ложак, але ставілі яе на высокім месцы.

І сам здаровы розум нам паказвае, як цаніць сябе. Такая тактыка ня ёсьць фарызэйствам, але растаропнасьцяй і ёсьць цнотай. Дык ня трэба верыць фальшывым дабрадзеям, што нас зводзяць.

Так, прыкладам, мы аценілі свой край, як найбяднейшы, бо так яго акрычалі і апаганілі суседзі, а ўвесь наш край рэклямавалі як — «край Пінскіх балотаў і глухога Палесься». Можна бачыць у заграпічных кніжках тып Беларуса — гэта паляшук у лапцях. А калі адзін аўтар назваў кніжку «Князь і Лапаць», дык нашыя Чытачы (ня мала іх!) на «Лапаць» нічога не наракалі, але на «Князь» — проста абсьмяялі, што ў Беларусаў — «князь»! і абавязкава радзяць адмяніць «князя»...

Тымчасам тыя-ж суседзі (ня будзем іх называць) самі сябе сама-хваляць, як толькі мага.

Ёсьць польская пагаворка: «Чужое хваліш, сваё абмінаеш і сам ня знаеш, таго, што маеш!» Толькі гэтак робім мы.

Я знаў аднаго сьвятара Беларуса: цудоўны чалавек! Працавіты, ахвярны і меў немалую веду, практычны ў жыцьці — мог кожнаму парадзіць у розных галінах жыцьця, начытаны і добры прамоўца, але... меў — як кажны чалавек — свае заганы. Як што было не па ягонаму, мог накрычаць, нагаманіць і нат' сарваць адносіны. Дык вось — замест уплыву — паадбіваў ад сябе людзей і мучыўся ў самоце. — І я спатыкаў такіх дзеячоў, што тварылі ўсюды партыі, дзе толькі зьявіліся — фактычна партыі для сябе і з сваіх найбліжэйшых.

Але вернемся да Пінскіх балотаў!

Цяпер аказваецца, што пад балотам існуюць багацьці — толькі-ж вельмі глыбокія. І ўсходні сусед ужо прылучыў нашую нафту да свайго праваду!..

*

Як рэдактар, хачу датасаваць разважаньне да нашых Паважаных Чытачоў.

Нямала такіх, што цікавяцца нашымі справамі і апісываюць свае і агульныя падзеі, але засьцерагаюць, каб нічога з таго ня друкаваць! І каб ані-як ня выявілася фамілія. — Прашу іх прачытаць і разважыць двойчы, «каму патрэбна такая пакора?»

Кажны рэдактар ня можа выцерпець, каб не надрукаваць важнай, ці нават звычайнай, весткі. Дый часамі ведама аб тымсамым з другога жэрала, дык як рабіць?

Мушу падкрэсьліць, што такая пакора часта бывае маладушнасьцяй і нашай нацыянальнай заганаю. Гэтак мы становімся добрай пашай для лакомых суседзяў, а — яшчэ горш — неўдзячнымі Богу, які абдарыў нас вялікімі багацьцямі матар'яльнага і духоўнага зьместу. Адна асоба пісала рэдактару: «Я пішу пасьпешна і ў ночы, па працы, дык гэта да друку не надаецца». — А вось якраз неспадзяванае фото бывае найлепшае — жывое і вельмі мілае.

Дык дайце-ж, Дарагія Чытачы, рэдактару магчымасьць судзіць і — на Божую Міласьць — ня будзьце гэтак баязьлівымі і не паддавайцеся «такой пакоры»! Каб мы не трацілі багацьця сваёй натуры і характару...

*Я. Савіцкі*

# Юбілей Пакуты

## *(50 год)*

Сьвяткуюць людзі свае асабістыя юбілеі, але сьвяткуюць іх і народы. Так нашы суседзі, палякі, сьвяткуюць 1000-годні юбілей хросту Польшчы (966-1966). Пераважна юбілеі — гэта здарэньні радасныя. Аднак здарэньні бываюць і сумныя, або трывожныя, ад якіх пачынаецца для народу новы этап жыцьця. Такія факты, хочкі-ня хочкі, мусімо ўспамінаць і рабіць зь іх высновы на будучыню.

Такі юбілей выпадае для Беларусі сёлета ў восені. Хто з нашых эмігрантаў помніць пачатак І-ае вайны ў 1914, той ведае, (а можа і сам перажываў?), што ў 1915 фронт прыкаціўся да нас, затрымаўся на нашых землях і разрэзаў іх з поўначы на паўдзён. Памятнае гэтае здарэньне яшчэ важнае і тым, што ад той восені пачынаецца бязупынная **р а з ь н я** нашых земляў між суседзямі.

«Ой, няшчасна наша доля —
Злыдні б'юцца — дай ім поле!
Беларусь ім як арэна —
На пякельны танец сцэна . . .

Трубяць так народу ў вушы,
Рвуць на два бакі ўсе душы:
Абяцаюць — ня скупыя —
Даць нам горы залатыя! —

(Князь і Лапаць, б. 33-34)

Ня будзем тут разважаць усіх пераменаў у граніцах і рэжымах: гэтым — спадзяёмся — займуцца палітычныя часапісы. Мы зьвернем увагу на рэлігійныя падзеі за гэтых 50 год **п а к у т ы**.

Праўда, і даваенны час ня быў для Беларусі шчасьлівым: датуль трывала палітычная няволя ў царскай Расеі. Праходзіла таксама Беларусь і праз розныя фазы гнёту рэлігійнага — дзеля падзелу нашага народу на каталікоў і праваслаўных. Гэта, як ведама, усьцяж выкарыстоўвалі Польшча і Расея, як нашыя «апякуны». Аднак да 1915 Беларусь была, хоць паднявольная, але непадзеленая.

І вось якраз здарылася — для большае нашае трагедыі, што фронт восені 1915 разьбіў Беларусь больш-менш у межах рэлігійнага падзелу: каталіцкая частка аказалася ў немцаў на захадзе, а праваслаўная ў расейцаў на ўсходзе. Прытым з заходняе часткі значны лік беларусаў праваслаўных адыйшлі (агітаваны або прымушаныя) з царскай арміяй на ўсход.

Пасьля рэвалюцыі пачалася польска-бальшавіцкая вайна: хоць фронт быў перасовачны, аднак усё-ж часьцей каталікі траплялі на захад, а праваслаўныя на ўсход. Нарэшце разьдзел Беларусі ў 1920 між Польшчай і Саветамі разрэзаў нашую зямлю паводле той самай сыстэмы захаду — ўсходу. На ўсім сьвеце ўжо думалі, што гэта будзе канчатковая граніца, якая блізка што супадала з фронтам 1915 г. Польскі ўрад браў тагды гэтулькі нашых людзей, колькі спадзяваўся «стравіць».

Польшча, хоць юрыдычна прызнавала ў сваёй дзяржаве беларускі народ, аднак у практыцы трымалася сваёй даўнейшай тактыкі, што беларусы-каталікі ёсьць палякі! Праўда, у канцы вайны шмат уцекачоў праваслаўных вярнулася ў польскія граніцы і наагул праваслаўныя беларусы былі «нястраўным» элемэнтам. З гэтага ўзьнікала цяжкая, зыгзагаватая дзейнасьць польскае палітыкі на шкоду беларусаў: наварочваньне на «польскую» веру, нават паленьне цэркваў і розныя зьдзекі.

Прытым польская палітыка недапускала ані думкі, што каталік можа быць беларусам: даходзіла да фармальнага прасьледу сьведамых адзінак, асабліва сьвятароў беларусаў. Такі стан трываў да разгрому самой Польшчы ў 1939 г.

У 1939 Гітлер са Сталінам разламалі Польшчу і Беларусь ізноў памысна зраслася. Аднак зара пачаліся арышты і вываз нашае інтэлігенцыі ў Сібір, (нават савецкіх прыхільнікаў), прыгнёт эканамічны (калгасы) і рэлігійны. Гэтым спосабам «лякарства аказалася горшым ад усіх хваробаў».

У 1941 — вайна з немцамі да 1945. Хоць фронт быў больш рухомы як у першую вайну, аднак ізноў паўтарыўся падзел Беларусі на ўсходнюю і заходнюю. Вайна нарэшце канчаецца і Беларусь дзеляць ужо між сабой камуністы польскія і расейскія. Хоць усе яны атэісты, аднак польскія карыстаюць з таго, што беларусы каталікі спольшчыліся і стараюцца гэтулькі адрэзаць, колькі могуць вытаргаваць ад Сталіна . . .

А расейскія камуністы па вайне стараюцца збыць у Польшчу рэшту беларусаў каталікоў, каб не мяшалі камунізаваць і атэізаваць праваслаўных.

Вось цэлая «гісторыя з геаграфіяй» у працягу 50 год. Ці-ж не праўдзіва мы назвалі гэтыя паўвеку «Юбілеем Пакуты»?

Пакута падзелу на каталікоў і праваслаўных адбілася і на нашай эміграцыі, асабліва ў Амэрыцы, дзе першая эміграцыя, можна сказаць, затанула цалкам — перш у моры польскім і расейскім, а пасьля у акіяне амэрыканізацыі.

Другая эміграцыя ад 1944 і наступных гадоў перажывае тую самую хранічную хваробу больш павольна, і значная частка асталася сьведамай і нават актыўнай. Што-ж рабіць і як далей жыць?

Некаторыя ўжо прыходзілі да думкі, што можа не варта і змагацца? Іншыя казалі, што магчымы ўжо падзел на два народы — бел. катал. і белар. праваслаўных, як сталася у Югаславіі, дзе сербы і харваты — людзі аднэй мовы — сталіся двума народамі, паводля рэлігіі праваслаўнай і каталіцкай.

Аднак у нас, паміма рэлігійнага падзелу, паміма адменнага ўплыву культуры ўсходняй і заходняй і паміма шматразовага падзелу ў гэтых 50-ці гадох, — а ўсёжтакі мы становім адзін народ! На практыцы мы праканаліся няраз: калі спатыкаемся — ня тольк з суседніх раёнаў, але нават з самых ускраінаў нашае зямлі — віцебскія з гомельскімі, або беластоцкія з магілёўскімі — мы зара, у першай гадзіне знаёмасьці, ужо гаворым як старыя таварышы, як адны людзі аднаго краю. У нас няма такой розьніцы, як у палякоў Шлёнск і Мазуры, або ў немцаў плят і хох дойч.

*

З гэтага выводзім, што нам трэба самым згладжываць разьдзел, які так штучна і падступна ўводзілі для нас нашыя добрыя суседзі і апякуны. Якраз цяперашні Ватыканскі Сабор — у новым кірунку экумэнізму — памысна згладжывае вялізарны векавы падзел Царквы Каталіцкай і Праваслаўнай, робячы ўступкі ў практыцы каталіцкай.

А небасьпека атамнай вайны і згубы ўсяго чалавецтва нас таксама павінна пабудзіць да лучнасьці народнай. Як аддзельны і самастойны народ мы будзем мець голас у агульналюдзкой сям'і, каб дайсьці да згоды ўсяму сьвету.

Калі разважым, чаму так нізка заняпала нашая старая эміграцыя ў Амэрыцы, чаму яна так скора і цалкам пайшла ў амэрыканізацыю, а стаіць эканамічна ніжэй ад іншых народаў, — дык зразумеем, што віною была нясьведамасьць нацыянальная нашых людзей. Ня было сваіх арганізацыяў, ня было каму кіраваць — памагчы нашаму чалавеку, дык вось і зьвіхнуліся нашыя людзі!

І кажны з нас мусіць разумець, што мы — людзі, як усе людзі. Ці-ж гэта гонар нам падмазывацца пад другіх, прыкідывацца тым, чым мы ня ёсьць, фальшаваць сваю душу і крывіць язык?

Нам Бог даў зямлю і мову і цэлы склад чалавека-БЕЛАРУСА!

---

*П. Ермін*

# ШЧАСЬЛІВЫ САКАВІК

*З гораду й да вёскі —*
*Гутарка супольна —*
*Ідуць мроі, думкі:*
*«Беларусь — ня вольна!»*

*Скардзяцца і птушкі,*
*Нават і ваўкі,*
*Сумуюць палеткі*
*На свой лёс такі.*

*«Божа, мілы Божа!»*
*Плачуць так яны:*
*«Край такі прыгожы*
*Нішчаць груганы».*

*Вольна панавалі,*
*Хоць ня доўгі час —*
*Весела сьпявалі*
*Для сябе, для Вас.*

*Волю даў і шчасьце*
*Месяц Сакавік:*
*Сьпяшыць, як з выгнаньня,*
*Беларус у Менск.*

*Бел-чырвоны-белы*
*Сьцяг наш дарагі*
*Упрыгожыў хаты*
*Роднае зямлі.*

*Мкнуцца дэлегаты*
*Із усіх канцоў,*
*Шмат нясуць парады*
*Ад сваіх сяброў.*

*«Час прыйшоў змагацца»,*
*Кажа Прэзыдэнт:*
*«Само не даецца —*
*Будзе плач і енк».*

*«Дапамогі з боку*
*Ніхто не чакай —*
*Трымай сваю думку —*
*Волю здабывай!»*

*Памажы нам, Божа,*
*Свабоду ўтрымаць:*
*Еўфрасіня можа*
*Й хоча памагаць.*

*Ці-ж вымаліць мышка*
*Жыцьцё у ката?*
*Або то ягнятка*
*У лютага ваўка?*

*Маніфэст аб волі*
*Крывёй залілі*
*Варагі-чужынцы*
*Нашае зямлі.*

✳

*Людзей нішчыць можна —*
*Край наш зруйнаваць,*
*Але думкі вольнай*
*Нельга адабраць!*

Каліфорнія.
15. VIII. 1965.

---

# ВАТЫКАНСКІ САБОР

РЫМ. Пасьля вялікіх упалаў, пасьля гарачага чэрвеня і ліпня і пасьля нязьмерных дажджоў — аж да катастрофы ў жніўні, — верасень выпаў самы італьянскі — рымскі: сонца пралілося за гэтыя дні больш, чым у Лёндане за ўсё лета. Аднак упалаў няма. Чыстае неба ўдзень і ўначы і сама ноч цёплая — без даўнейшых маскітаў — гэта проста роскаш ў такім паганым годзе!

Вельмі ўрачыста і паважна а гадз. 9, 14. IX. 1965 пачалася IV Сэсія Сабору. Папа концэлебраваў Сьв. Літургію з грамадою кардыналаў і другіх ерархаў лацінскіх і ўсходніх. Імша была сьпяваная — рэцытаваная: хор мяняўся ў малітве з народам. Сапраўды, ад часу Яна XXIII народ — замест крычаць і вітаць папу — «Evviva il Papa» — ўвесь народ уключаецца ў гарманійны «дыялёг» з самым папай і з хорам, а найважнейшае — «дыялёг»-размову з Богам! Народ пяець, народ адпавядае ў просьбах, — народ моліцца!..

У некаторых частках Літургіі (і вечарам на працэсіі) хор упадае ў мілую паліфонію (шматгалосны сьпеў); але гэта так памяркоўна і такія звонкія, чыстыя іх галасы, што робяць уражаньне анёлаў. Прытым — навіна! Гэта ёсьць просьбы з літаніі да ўсіх Сьвятых — на падабенства ўсходняе ектеніі.

Пасьля Літургіі — малітвы да Сьвятога Духа — песьня: «Veni Creator Spiritus!»

Я сяджу за аўтаром на сярэдзіне — на узвышэньні: бачу ўсё, хоць мне і далекавата. Гэта зааўтарная базыліка — малая частка сьвятыні, ды і тут, думаю, цяпер памясьцілася 7—8 тысяч народу, хоць ня было цесна.

Перада мной высока у аснове купала відаць частку надпісу: «...AEDIFICABO ECCLESIAM MEAM...» — «...пабудую Маю Царкву...»

І сапраўды, народ тут сабраны даслоўна з усяго сьвету! Найбольш аднак было ля мяне цёмна-кавовых індусаў, малайцаў і іншых з паўдзённае Азіі. Зразумела, што каталікі. Японцаў было менш. Нэгры больш сабраліся ў вялікай базыліцы, перад аўтаром. У цэлай масе народу ня было ані сьледу ніякай расавай сэгрэгацыі.

✳

Біскупы, што першы раз прыбылі на Сабор, закліканы да вызнаньня веры і прысягі на вернасьць Царкве і ейнай навуцы. Іх было каля сотні. А наагул усіх — больш як на першай Сэсіі. Каляровых — нямала, а ёсьць чорныя аж бліскучыя!

✳

II-гі Ватыканскі Сабор вельмі розьніцца ад I-га (ў 1869—70 г.). І тады, праўда, цікавіўся Саборам увесь сьвет, але зашмат мяшаўся ў царкоўныя справы. Некаторыя тады ўрады (Францыя, Аўстрыя) папераджалі Ватыкан, каб ня сьмеў дапусьціць да прызнаньня папскае непамыльнасьці ў справах веры і абычаяў. Другія (Нямеччына) ставіла папе немагчымыя вымогі, а Расея недапусьціла сваіх каталіцкіх біскупаў на Сабор. I Сабор трываў толькі 10 месяцаў: быў перарваны і разагнаны францускa-нямецкай вайною і нападамі самых італьянцаў на папскі Рым. Пій IX замкнуўся ў Ватыкане і гэтая няволя трывала ад 1870 г. да 1928, праз часы Пія IX, Лявона XIII, Сьвятога Пія X, Бэнедыкта XV і Пія XI.

Цяпер Царква карыстае з поўнае свабоды: урады не мяшаюцца да справаў Царквы і прабегу Сабору. З усяго сьвету — апрача агранічэньня з боку камуністычных краёў — біскупы прыяжджаюць у Рым.

Навуковыя сфэры зацікаўлены Царквою і аказываюць ёй сваю прыхільнасьць, калі на І-ым Ватыканскім Саборы наагул навука была настроена да Царквы варожа і прарочыла ёй поўную ліквідацыю.
Цяпер спрыяюць Царкве і навуковыя здабычы, як у камунікацыі (большасьць біскупаў прыбыла самалётамі), так і ў радыё і тэлевізіі.

Рух гэтак званага «экумэнізму» набірае размаху: «ўсе дарогі вядуць у Рым», бо сьвет пачынае разумець, што Хрыстовыя словы, сказаныя Пятру, ня былі пустымі: «Табе дам ключы да Нябеснага Валадарства». З гэтымі «ключамі» Наступнік сьв. Пятра мае цяпер шмат работы. Як ведама, едзе цяпер у Амэрыку — запрошаны выступіць у асамблеі ў Нью Ёрку ў справе сусьветнага міру і голаду на нашым неспакойным сьвеце.

✳

Вечарам 14. IX. адбылася пакутная працэсія ад базылікі Сьв. Крыжа да Сьв. Яна на Лятэране. У працэсіі сам папа нёс крыж, у якім ёсьць значная частка Гасподнята Крыжа. Увесь народ пяяў суплікацыі і пакутныя гімны і псальмы — у перамешку з хорам. Гэтага ўражаньня нельга забыцца! Пасьля было выстаўленьне Сьв. Крыжа перад Базылікай Сьв. Яна на высока збудаваным аўтары. Тут адбыліся публічныя малітвы, казань і закончылася набажэнства багаслаўленствам народу — на ўсе старонкі сьвету — Сьв. Крыжом.

Дня 15 IX. пачалася нармальная праца Сабору IV-ай і — магчыма — апошняе Сэсіі.

Прысутны а. Я. Г.

# З царкоўнага жыцьця

ГІШПАНІЯ: Узноўлены памятнік Найсьвяцейшага *Сэрца Ісуса* ў 20-ці кілямэтрах ад Мадрыду на Чэрро дэ лёс Анджэлес (Гара Анёлаў) асьвячаны 25 чэрвеня. Гэты памятнік быў зьняважаны і ўзарваны дынамітам атэістымі у 1936 г. падчас грамадзянскае вайны. Цяпер адбудаваны больш прыгожа: пад памятнікам ёсьць падземная базыліка на 5000 людзей, а над сьвятыняй узносіцца гэты знак хрысьціянскае перамогі — памятнік вышынёю 56 мэтраў.

Літургію адпраўлялі ў канцэлебрацыі кардыналы, япіскапы і сьвятары, пасьля генерал Франко публічна адчытаў пасьвячэньне Гішпаніі Найсьв. Сэрцу Ісуса. Былі прысутныя вялізныя масы народу.

✳

МАДРЫД — На службу ў Паўдзённай Амэрыцы: Папа Ян XXIII зьвярнуўся да япіскапаў Гішпаніі ў 1962 з такім заклікам: «Патрэбы Лацінскай Амэрыкі жудасныя. Пастарайцеся выслаць туды ў працягу трох гадоў 1500 сьвятароў». Япіскапы адказалі: «Добра, мы Вам абяцаем!» І сапраўды яны выканалі, што абяцалі: ня толькі тыя япіскапы, што мелі ў сябе сьвятароў дастаткова, але і тыя, у якіх бракавала. Бо брак духавенства ў Цэнтральнай і Паўдзённай Амэрыцы, пачынаючы ад Мэксыкі да Патагоніі, усьцяж узрастае, а праз гэта ўся Лацінская Амэрыка хіліцца да поўнага атэізму. Царква ня можа дапусьціць, каб гэтыя каталіцкія краі гішпанскай і партугальскай мовы зыйшлі на рэлігійнае бездарожжа. Гішпанія паднялася ратаваць Царкву ў краёх сваёй мовы.

ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЭРЫКІ: Падчас Ватыканскага Сабору дайшло да зблiжэньня цэркваў — каталікоў, праваслаўных і пратэстантаў, аднак трэба і ў гэтым захаваць адпаведную меру. Вось у Амэрыцы япіскапы выдалі тымчасовыя дырэктывы: 1) Не дазволена каталіцкім сьвятаром выступаць з прамовамі ў цэрквах іншых рэлігіяў падчас іхнага набажэнства, ані лучыцца зь імі ў супольнай багаслужбе. 2) Таксама нельга дапускаць да прамоваў сьвятаром іншых рэлігіяў у нашых сьвятынях падчас нашага набажэнства, ані прыймаць іх да сваёй службы.

Можна, праўда, прысутнічаць на чужым набажэнстве, але і толькі таго! І можна хрысьціянам маліцца ў чужых сьвятынях, асабліва, калі няма сваіх сьвятыняў і сваіх сьвятароў. На жаль, некаторыя пратэстанты адыйшлі так далёка, што не памяшчаюць крыжоў у цэрквах, ані прызнаюць Хрыста Богам! З гэтымі зьбліжэньне становіцца немагчымым.

✳

МАДЗЯРШЧЫНА: Мадзярскі ўрад вельмі нэрвуецца, што кардынал Міндсэнті, які ў 1956 пасяліўся ў пасольстве Злучаных Штатаў Амэрыкі, ня хоча адтуль выходзіць, ані выяжджаць з краю — так пратэстуе супраць несправядлівага прысуду. — У апошнім часе ізноў там арыштавалі 7-ёх сьвятароў за — «нелегальныя зносіны з заграніцай», бо ў іх пры рэвізіі знайшлі кніжкі рэлігійнага і пэдагогічнага зьместу, друкаваныя заграніцай. І гэта таксама называюць «злачынствам».

ЧЭХІЯ: Тут ужо ўрад уздыхнуў лягчэй, калі збыў з краю кардынала Бэрана (цяпер у Рыме): назад, ведама, ня пусьцяць! (Таксама і Саветы не згадзіліся прыняць назад кардынала Язэпа Сьліпога, украінца). — Цяпер урад згадзіўся прызнаць заступнікам у Празе монсіньёра Томасэка. Гэты зьвярнуўся да ўраду, каб зьняў забарону ў Чэхаслаччыне для 1000 сьвятароў — адпраўляць нармальную службу ў парахвіях. Тут пераважна падпалі пад няміласьць сьвятарыманахі: значная частка іх адбыла ўжо вязьніцу і лягеры, аднак ім і на свабодзе не даюць магчымасьці служыць Богу і людзям. Япіскап Отцэнасэк адбыў вязьніцу ад 1957 да 1963 і урэшце пазволілі яму заняць маленькую вясковую парахвію. А з 1000 тых сьвятароў ледзь пару дзесяткам далі магчымасьць працаваць у касьцёлах нармальна.

Наагул ад часоў папы Яна XXIII адносіны да Катал. Царквы ў Чэхаславаччыне крыху папраівіліся, хоць далёка яшчэ да нармальных. Законьніцам забаронена мець навіцыяты, вучыць у школах і працаваць у шпіталях. Аднак пазволена весьці прытулкі для старых.

Сам япіскап Томасэк, як і ўсе другія япіскапы, праз дзесятак годоў былі пад забаронай адпраўляць публічныя службы і кіраваць у дыецэзіі. Томасэк некалька гадоў працаваў у малачарні.

Цяпер ужо пазволена вучыць моладзь рэлігіі пры сьвятынях, але толькі адну гадзіну ў тыдзень, ды і тую гадзінку ўлада стараецца чым колечы заняць. Старшая моладзь усё-ж значна прыхіляецца да веры і набажэнстваў. А на выклад рэлігіі бацькі павінны пісаць просьбу да ўраду і кажны год трэ пісаць новую просьбу! — Гэта, ведама, вельмі цяжкая перашкода — ў краі, дзе ўсё жыцьцё і заработак залежыць ад атэістычнага ўраду. — Адчыненыя толькі дзве дух. сэмінарыі: адна на Чэхію для 70 студэнтаў і другая для Славакаў на 74 ст.

З 12-ці дыяцэзіяў толькі тры цяпер маюць япіскапаў, а дзевяць — асірацеўшы. — Усё гэта сьведчыць аб «свабодзе» рэлігіі ў камуністаў . . .

✳

ЕГІПЕТ: Прэзыдэнт Нассэр аб'явіў роўнасьць палажэньня хрысьціян і музулманаў у Егіпце. «Бог ніколі ня кліча да фанатызму, але да любові і мы дзеім згодна із Божаю навукай», казаў ён. На знак таго Нассэр быў прысутны пры закладзінах першага каменя пад будову катэдральнага правасл. сабору. — І гэтым Нассер хоча паправіць адносіны між рэлігіямі, бо фанатычныя магамэтане твораць розныя труднасьці хрысьціянам (у гор. Базілія разбурылі царкву коптаў), так што хрысьціяне былі змушаныя ўцякаць заграніцу, пераважна ў Канаду.

✳

АФРЫКА — ГАНА: Край не такі вялікі (650 на 500 кілямэтраў) і 7 міл. жыхароў (але ведамы ўсяму сьвету), зь якіх 706,000 каталікоў. Місіі маюць там шмат труднасьцяў, найбольш з таго, што народ гаворыць не аднэй мовай: ёсьць такія парахвіі, у якіх місіянэр мусіць ведаць шэсьць зусім адменных моваў! Аднак місіянэры — каталіцкія і пратэстанскія — маюць вялікую заслугу, бо фактычна яны прыгатавалі край да незалежнасьці праз царкоўныя школы і ўзгадаваньне інтэлігенцыі ў сярэдніх і вышэйшых школах.

Жыхары Ганы ў паганстве вераць у аднаго Бога — вялікага і магутнага, да якога аднак ня моляцца, бо «Ён і так добры і ня робіць шкоды». А моляцца да злых духаў і прыносяць ім ахвяры, бо «яны шкоднікі, дык трэба іх задабрыць». Малітва абавязкава лучыцца з песьнямі, крыкамі і танцамі пад барабаны. Мэлёдыі часта мяняюцца і нат' укладаюцца пры той самай малітве паводле натхненьня.

І яшчэ важная перашкода для місіі — мнагажонства. Калі такі галава сям'і зьвяртаецца да місіянэра і жадае ахрысьціцца, місіянэр дамагаецца, каб адаслаў лішніх жонак. А той бядуе, што «трэба работніцаў!». Дык вось, хоць навучыцца катэхізму і мае найлепшую волю, але адкладае часам хрост аж да сьмерці.

✳

ЛІБАН: У гор. Бэйруце паўстаў вышэйшы Інстытут Студыяў, у які ўваходзяць багасловы каталіцкія і магамэтанскія: разважаюцца дагматы і Катал. Царквы і Ісламу на роўных правох экумэнізму і ўзаемнае пашаны. Там чытаюць лекцыі і рэфэраты найбольшыя вучоныя абодвух бакоў. — Магамэтане ўважаюць свайго закладчыка Магамэта за найбольшага прарока, але таксама лічаць прарокамі Ноя, Абрагама, Майсея, Аарона і . . . Ісуса Хрыста!

Гэты дыялёг у Бэйруце мае вялікае значэньне — пазнаваць узаемна ўсё добрае, што ёсьць у другіх людзей, якія вераць у аднаго Бога, а такжа супольна змагацца з атэізмам і бязбожнасьцяй.

# *Зь Беларускага рэлігійнага жыцьця ў Нью Ёрку*

*(Перадрук зъ «Беларуса»)*

У краёх Захаду — Вялікабрытані, Францыі, Італіі, Амэрыцы існуе беларуская каталіцкая арганізацыя «Рунь». Ёсьць аддзел «Руні» і ў Нью Ёрку. 19-га й 20-га чырвеня сёлета ньюёрскі аддзел «Руні» прыймаў у сябе прыбылага з Эўропы Гасьця — беларускага Япіскапа Часлава Сіповіча, Апостольскага Візытатара для Беларусаў каталікоў на Чужыне. Уладыка Часлаў бярэ ўдзел у працах Ватыканскага Сабору, дзе ён уваходзіць у склад камісіі для справаў Усходніх Цэркваў. Япіскап Сіповіч — таксама й Гэнэрал Ордэну Марыянаў. У Амэрыку ён прыехаў адведаць манахаў свайго Ордэну ды суродзічаў — Беларусаў.

З нагоды ягонага прыезду Нью Ёрскі аддзел «Руні» ладзіў у залі Украінскага Літаратурна-Мастацкага Клюбу вечар із дакладам Уладыкі Сіповіча пра праблемы й дасягненьні Ватыканскага Сабору.

— Хрысціянскія Цэрквы, — казаў дакладчык, — ідуць у кірунку да згоды й супарцоўніцтва. Сёлета, прыкладам, у Папы Паўлы VI-га была дэлегацыя прадстаўнікоў ад 23-х розных Цэркваў і рэлігійных фэдэрацыяў. Ад імя сяброў дэлегацыі выступаў з прамоваю прадстаўнік Канстантынопальскага патрыярха Радапулёс, які, між іншага сказаў: «Мы ведаем, што шлях збліжэньня Цэркваў вельмі цяжкі. Але мы не баімося цяжкасьцяў, бо сіла веры ня мае межаў. I калі мы будзем запраўды верыць у задзіночаньне хрысьціянаў, мы пераможам усё, і хрысьціянскія Цэрквы стануць ізноў Адзінаю Хрыстоваю Царквой».

— Некаторыя аўтарытэтныя прадстаўнікі царкоўнага сьвету, — дадаў Уладыка Часлаў, — называюць гэты рух запраўднай рэвалюцыяй у Царкве, якую праводзіць, аднак, сама Царква.

Назаўтрае, у нядзелю, Яго Эксцэленцыя быў на імшы, адпраўленай для Беларусаў — Каталікоў айцом Францішкам Чарняўскім у капліцы Айцоў Пасіяністых на Джамэйцы, спавядаў, меў казаньне на тэму матарыяльнае й духовае культуры, і ўдзяліў прысутным Багаславенства. Зараз па імшы, таварыства «Рунь» зладзіла было ў доме ймя Пётры Крэчэўскага сьціплы полудзень, на якім вітала Яго Эксцэленцыю зь 5-мі ўгодкамі ягонага япіскапства. Бяседа была добра арганізаваная й прайшла ў сардэчным сяброўскім настроі.

*Каталік*



**Пасьля Багаслужбы:**
**Нью Ерк, 20, VI, 1965**

# Біскуп Ч. Сіповіч у Канадзе

У сыботу 12 чырвеня сёлета, калі самалёт із ЗША прызямліўся на лётнішчы ў Молтон каля Таронта, група Беларусаў у складзе д-ра В. Жука, Я. Пітушкі й ягонага сына, М. Пашкевіча, ягонага сына й дачкі Эвы ў нацыянальнай вопратцы ды А. Маркевіч годна спаткала дастойных гасьцей — Я. Э. Біскупа Часлава Сіповіча, Апостольскага Візытатара для Беларусаў Каталікоў, і ксяндза Міхала Урбановіча.

Пасьля цёплай сустрэчы на лётнішчы, гасьцей віталі традыцыйнымі соляй і хлебам сп-ва Пашкевічы, а пазьней — сп-ва Пітушкі.

Наступнага дня ў летувіскім касьцеле Сьв. Яна Хрысьціцеля а. Урбановіч адслужыў сьв. імшу, пасьля якой сказаў прыгожае казаньне Уладыка Часлаў. Падчас набажэнства адміністраньціў Паўлюк Пашкевіч. Пасьля гэтага адбылася традыцыйная гарбатка, дзе ўсе мелі нагоду прывітацца й пагутарыць з рэдкімі гасьцямі. Па абедзе ў чэсьць высокадастойных гасьцей Згуртаваньне Беларусаў Канады зладзіла супольны абед, якім кіравала сп-ня Р. Жук. Прысутны на абедзе пратаярэй М. Мацукевіч прывітаў Уладыку ад імя мясцовай праваслаўнай парахвіі БАПЦарквы.

Уладыка Часлаў у даўжэйшай прамове расказаў аб жыцьці Беларусаў у Эўропе, аб Другім Ватыканскім Саборы й аб сваёй дзейнасьці на ім. На супольнай вячэры ў сп-ва Маркевічаў пісьменьнік К. Акула падараваў высокім дастойнікам сваю апошнюю кніжку «Гараватка» із аўтографам. Яшчэ гэтага вечару Уладыка Часлаў наведаў сп-ва Жукоў у Бэры, а наступнага дня ў суправодзе сп-ва Жукоў зляжыў візыту Я. Э. Арцыбіскупу Покока ў Таронта.

Дастойных гасьцей разьвіталі д-р В. Жук і А. Маркевіч на тым-жа лётнішчы ў аўторак 15 чырвеня.

*Хв. Прылепскі*
Перад. зь *«Беларуса»*





Уладыка Ч. Сіповіч прамоўляе на прыняцьці у Таронта

# З беларускага жыцьця

## ЛЕТНЯЯ КАЛЁНІЯ У ЛЁНДАНЕ

Ледзьве пасьпелі раз'ехацца на летнія канікулы вучні школы сьв. Кірыла, а ўжо школьны будынак пачаў напаўняцца іншымі дзецьмі, гэтым разам у большасьці дзяўчатамі, якія прыехалі сюды на летнюю калёнію.

Келёнія адбылася ў часе ад 31-га ліпеня да 8-га жніўня і, як і ў мінулым годзе, удалася вельмі добра. Удзельнікі шкадавалі толькі, што яна была такой кароткай.

На калёнію прыехалі беларускія дзеці ня толькі з розных куткоў Англіі, але таксама з Францыі, Бэльгіі і Нямеччыны.

Праграма была багатая і разнаякая. Дзеці мелі нагоду зьведаць Лёндан і аколіцы. Асабліва трэба адзначыць экскурсію ў Брытанскі Музэй, дзе дзеці пабачылі кнігі друкаваныя ў Лёндане у канцы 15-га стаг. беларускім друкаром Янам з Літвы. Надзвычай добра ўдалася экскурсія параплавам па Тамізе ў Грынвіч.

Ня гледзячы на пэсымістычныя мэтэаралягічныя камунікаты, пагода трывала цэлы час вельмі добрая. Гэта дало магчымасьць дзецям прабываць шмат на сьвежым паветры. Яны хадзілі купацца і гулялі ў школьным садзе ў валейбол, бадмінтон, крокет і іншыя гульні.

Ня была забытая і навука. Кожны дзень а. А. Надсон меў з дзецьмі кароткую гутарку на беларускія тэмы, а а. Р. Тамушанскі навучыў іх сьпяваць некалькі беларускіх песьняў. Трэба таксама зазначыць, што кожны дзень раніцай і вечарам дзеці маліліся па беларуску.



Група удзельнікаў калёніі на экскурсіі у Грынвіч

# Зь лістоў у рэдакцыю

Высока Дастойны і Дарагі Айцец Рэдактар!

Шчыра дзякую за Ваш мілы ліст і сугэстыі напісаць нешта з аўстралійскага жыцьця. Так ужо складаецца, што людзі аб найбліжэйшым найменш ведаюць. Не скажу, каб Аўстраліяй я ня цікавіўся: тож яна — другая сяньня Бацькаўшчына. Прыняла, дала працу і магчымасьць параўнаўча добрага жыцьця. Бо, хаця мае толькі 11 мільёнаў жыхароў, выбіваецца ў шматлікіх дзелянках жыцьця на адно з першых месцаў у сьвеце: *першая ў сьвеце дала правы жанчынам.*

Аўстралія хоча быць «белай». Ці ўдасца ёй гэта? Тымбольш, што над ёю «вісіць» мільярд жоўтых (у Азіі), якія з вялікім пажаданьнем кіруюць свой апэтыт на пустую амаль Аўстралію.

Цяпер крышку пра нашых слаўных кангураў.

Калісь вялікую шкоду тутэйшым фармэрам рабілі кролікі, прывезеныя сюды з Англіі і адзічэўшыя. Барацьба з імі была доўгая і цяжкая. Сяньня іх астаецца даволі мала. Хапае толькі паляўнічым і аматарам, такім як я. Горш з кангурамі, бо іх шмат і робяць шмат шкоды. Пачалося змаганьне і з імі. Як інфармуе прэса, гіне кангураў што год больш мільёну. Палююць на іх ня толькі дзеля іх добрае скуры, што ідзе на экспарт, але і дзеля мяса. А мяса аказваецца зусім нядрэннае, калі ўсмакавацца.

Учора прачытаў, што адна фірма ўзялася пералічыць кангураў: будуць рабіць падлік з самалётаў, нізка лятаючы. Паколькі кангуры не зьмяняюць свайго месца больш 20-ці міляў, такі падлік здаецца зусім магчымым і зарэеструе ўсю колькасьць хоць прыблізна.

Кангураў ёсьць шмат адменаў (каля 30-ці). Большыя сягаюць узросту каня і патрапяць шыбчэй бегаць — фактычна скакаць на задніх нагах, падпёршыся магутным хвастом (робяць скачок у даўжыню да 10-ці мэтраў і ўгору да 3-х м.). Пярэднія ножкі шмат меншыя: яны якбы рукі ў чалавека, памагаюць хапаць ежу і толькі часам на іх апіраюцца ў меншым руху.

Кангуры — прадстаўнікі мяшочных зьвяроў, якіх у Аўстраліі вельмі шмат (ваўкі, бабры, нават пацукі): самкі маюць на жываце торбу, у якой гадуюць малых, што родзяцца зусім нясьпелыя, амаль эмбрыёны. Матка адразу прымацуе дзіця да соскі і так яно ліпіць — аж пакуль дасьпее і дарасьце да нормы. Тады ўжо выскаквае, каб ізноў схавацца, калі змучанае, галоднае ці халоднае. Пацешна выглядае такі малы кангурок у торбе маткі, толькі галоўкай выстаючы зь яе.

Каля 50-ці міляў ад нас ёсьць даволі вялікі рэзэрват, дзе можна спаткацца вока-ў- вока з прадстаўнікамі аўстралійскае фаўны, дык і з кангурамі. Можна да іх падыйсьці, пачухаць і пагладзіць галоўку малога ў торбе яго мамы. Асабліва дзеці любяць гэта рабіць і цешацца.

У нас зіма. Надварэ холадна: замерз у хаце. Зара пайду да нашага агульнага пакою, дзе паліцца ў печцы. Ня дзіўлюся, што наш мядзьведзь зімою сьпіць. Добра было-б і людзям праспаць гэты неадпаведны час.

Канчаючы гэты ліст, далучаю прывітаньні ўсім Вашым Найбліжэйшым у Лёндане і жадаю Вам здароўя і сілы, каб заплянаваныя справы маглі памыса зрэалізаваць. Дапамагай Вам Бог!

Шчыра Вам адданы М. Н.

Мэльбурн, 14. VII. 1965.

---

У сыботу 7-га жніўня вечарам было вялікае вогнішча. Дзеці самі падрыхтавалі сабе вячэру, а пасьля пры вялікім агні сьпявалі беларускія песьні, якіх яны навучыліся на калёніі, скакалі і гулялі да позьняй гадзіны.

Калёнія закончылася ў нядзелю 8-га жніўня сьв. Літургіяй, якую адправіў а. А. Надсон. Дзякуючы стараньням спадарыні Г. Міхалюк, усе дзеці былі ў беларускіх народных строях. У казаньні а. Надсон сказаў, што для беларускіх дзяцей, якія нарадзіліся на чужыне, цяжка любіць Беларусь, якой яны ніколі ня бачылі і аб якой яны вельмі мала ведаюць. Ён дзеля гэтага заклікаў дзяцей старацца пазнаць аб Беларусі і беларускім народзе як найбольш і пры кожнай нагодзе. Асабліва ён заклікаў маліцца за Беларусь, бо малітва збліжае нас да Бога і да тых, за каго мы молімся.

Шчырая падзяка належыцца гаспадыні калёніі, спадарыні Г. Міхалюк і спадарыні М. Лемяшонак, без чыёй самаадданай працы калёнія не магла быць удачаю.

Пры разьвітаньні можна было чуць з усіх старон: «Да пабачаньня у наступным годзе!».

*

КАЛІФОРНІЯ: Нажаль, мы не маглі спаткаць і пабачыць паважанага біскупа Ч. Сіповіча. Мы так аддалены ад нашых скупленых суродзічаў і нас мала, то афіцыяльнага запрошаньня не маглі выслаць, толькі думалі прыпадкам зможам пабачыцца, а іменна вычыталі ў прэсе аб візытацыі айцоў Марыянаў, а іх тут таксама ёсьць. Але, здаецца, ужо з гэтага нічога . . . а было-б міла спаткацца, падзякаваць, пачуць добрае слова, параду! Дачушка была ў 1-ай Сьвятой Камуніі і пойдзе ў трэцюю клясу: яна ходзіць у

прыватную каталіцкую школу. Нажаль у гэтым годзе вясна была брыдкая — пахмурная і халодная. Можам пахваліцца, штo хаця нас мала, але і летам кажну суботу возім дачку ў «Беларускую Школку»: вучняў мала , але ў будучыні больш падрасьце. Зьбіраемся браць удзел у інтэрнацыянальным фэстывалі, які мае быць у кастрычніку. З гэтым лістом залучаю $ 3 на «Божы Шлях». Напэўна Вам ведама аб бунце ў нашым горадзе нэграў: ужо тыдзень як горад у агні, нераўнуючы як вайна. З глыб. пашанай — Ю.

*

*Ад Рэдакцыі: Перасланыя лісты з Бацькаўшчыны. Зь іх друкуем часткі больш цікавыя.*

— Мы атрымалі тваё пісьмо і фото: Вы вельмі прыгожа выглядаеце. Мы глядзім бясконца і ўспамінаем і гамонім аб Вас. Мама заўсёды — кажную мінуту хоча гаварыць аб Вас. Бабуля і дзядуля кажуць: «Добранькія, прыгожыя, таленавітыя ўнучкі!»

— Мне ёсьць магчымасьць прыстроіцца ў Баранавічах. Можа найду і што добрае? Наагул, як і ў кажным горадзе, прыдзецца ў Баранавічах улажыць усю сілу, каб чагосьці дабіцца. Але мяне гэта ня пужае: буду ўжо трэйці раз пачынаць жыцьцё ад пачатку. Вертацца ў Вільню мне вельмі ня хочацца, хоць Мікалай з жонкаю абяцалі знайсьці мне месца на 80 рублёў у месяц. Работа фізычная і не такая ўжо лёгкая. Але гэты нумар адпаў: трэба было адразу каваць жалеза, але я яшчэ тады ня думала... Але скажу табе па вернасьці: Мікалай з жонкаю абыходзяцца са мною вельмі добра і я іх уважаю і люблю ўсім сэрцам, але жыць у іх я ня вытрымала-б. Я звар'яцела-б.

— Мікалай, пакуль трэзвы, як няма водкі, дык залаты — разумны чалавек і уважліва абыходзіцца з жонкай. Але няхай выпье, яго падменяе другі — нейкі вылюдак, і што ён вытварае пры жонцы і дзецях, дык — Божа, сьцеражы ад такога няшчасьця! І з кажным днём усё горш — аж здароўе яго псуецца! Дзіўны наркотык. Ён варыць густую кашку — гарбату і крышку вады і пьець гэтую горкую жыжку, як няма водкі!

— Вось прыклад: я ўжо выбіралася выяжджаць, раптам прыходзіць Мікалай. Ён ішоў на стадыён, што ў суседзтве ад мяне: ён вельмі любіць спартакіяду ўсякіх гатункаў. А быў ужо добра выпіўшы і сьпяшаўся на футбал. Мы яго чакалі, але здарылася неспадзеўка: ён ня мог ісьці і яго павялі ў скорую помач, дзе яму далі некалькі ўколаў, пасьля чаго ён проста прыпоўз да мяне. Ад болю плакаў як малое дзіця. Я ўзяла таксі і адвезла яго дамоў да жонкі. У яго аднялася правая нага і з сэрцам было блага. Ён шаптаў, што Бог пакараў яго — за жонку: «За тваe мукі, што ты цярпіш ад мяне...» Гэта было страшэннае відовішча.

— Але заўтра боль адыйшоў зусім: ён пачуваўся здаровым, дык з радасьці зноў напіўся і пачаў прыставаць да жонкі, абзываў яе і чапляўся да ўсяго. Жонка хоча зь ім разыйсьціся, але дзеці яго цьвярозага вельмі любяць.

— Ён перажыў вельмі шмат. Быў суджаны на 25 г. — гэта быў замен, бо быў засуджаны на сьмерць. Адсядзеў шэсьць год і страціў усё сваё.

— ... яшчэ скажу пару слоў. Ёсьць на сьвеце Бог і Ён мне памагае. Разумееш, усюды-ўсюдачкі мне адмовілі і хацела ўжо вяртацца дамоў (гэта ў Баранавічах), але зайшла да касьцёла, каб так з немарасьці паплакаць. І як блудная авечка ня ведала, аб чым прасіць. А выйшаўшы з касьцёла, я надыбала на адно прадпрыемства. Начальнік гэтага прадпрыемства прыняў мяне і абяцаў прапісаць: на тры месяцы я паеду ў камандзіроўку недалёка гораду Берасьця, такое там мястэчка. Там буду працаваць у сталоўцы на 70 рублёў у месяц. Наагул я рада, але магчыма яшчэ адкажуць і мне ня верыцца...

— На гэтым цалую Вас. N. N.

*

Паважаны Айцец Рэдактар!

У зацемцы зь беларускага жыцьця (№ 3) датычна «Зьніч'а» ўстаўлена, што крыху трудна зразумець, што значаць словы: «Наўсьперш, усадоміць... і інш.», далей надрукавана: «Нам здаецца, што калі Царква ўводзіць нават у Літургію народныя мовы, каб Божае слова было даступна ўсім, дык і Беларусы будуць больш рады, калі мы будзем даваць ім выясьненьні ў мове зразумелай».

Нам, Беларусам, трэба цешыцца з чужога счасьця, бо нас гэта абмінула і абмінае.

У нас на эміграцыі ёсьць беларускія парахвіі толькі ўсходняга абраду, дзе нязьменна ёсьць каранаваная стара-баўгарская зрасейшчаная мова; у цэрквах мала зразумелая для старэйшых, а для моладзі — тое самае, што і турэцкая. Дык ня дзіва, што моладзь мала наведвае свае цэрквы.

Каталіцкая беларуская парахвія ў Чыкаго, ўсходняга абраду, дзякуючы бадай ці ня выключна зрасейшчанай Літургійнай мове, ня можа пахваліцца аб'яднаньнем і прыхільнасьцю каталікоў беларусаў — лаціннікаў, бо гэтыя апошнія добра ведаюць, як былі прасьледаваны іхнія бацькі, а часткова і яны самі за сваю нацыянальнасьць і рэлігію.

Дык для дабра рэлігіі, народнага адзінства і нашай нацыянальнай годнасьці неабходна найхутчэй устанавіць у нашых цэрквах родную беларускую мову.

І мне здаецца, што словы ці тэрміны ў «Зьніч'у» ня зусім трудныя, бо яны чыста беларускія, толькі з другое ваколіцы. Я. Чарнэцкі

# З беларускае прэсы:

БЕЛАРУС. Час. Беларусаў Паўн. Амэрыкі. Год XVI, Ліпень 1965, № 100. Выдаецца ад 20 верасьня 1950. Аб сабе — з нагоды 100 нумару — Рэдакцыя гаворыць: «... прычына да выдаваньня газэты — неабходнасьць інфармаваць увесь цывілізаваны сьвет аб падзеях у Беларусі, высьняючы праўду аб імкненьнях і ідэях Беларускага Народу ў ягоным змаганьні з акупантам ...» «... узяцца за рукі старой і новай эміграцыі ды йсьці сьвятым белар. шляхам, прызначаным нам Богам ... да Вольнай і Незалежнай Бел. Нар. Рэспублікі».

Аб юбілеі *Пранціша Багушэвіча* «Беларус» піша: «У сувязі із сёлетнімі 125-ымі ўгодкамі ад нараджэньня і 65-ымі ад сьмерці Пр. Багушэвіча ў Бел. Інст. Навукі і Мастацтва быў 12 чырвеня сёлета прачытаны праф. Ант. Адамовічам рэфэрат. «Толькі Пр. Багушэвіч у канцы XIX стаг. заснаваў чыста беларускі літаратурны працэс. Гэткае вылучнае і вызначальнае месца Багушэвіча ў гісторыі бел. літаратуры».

ЗЬНІЧ (ŽNIČ). Год XVI, Красавік-Жнівень, 1965, № 82-83. Рым. Мова Беларуская прызнана Літургійнаю. Першая Імша ў гэтай мове: Монс. П. Татарыновіч, А. К. Маскалік і Л. Рынгевіч — міністр. у СС. Міс. Найсьв. Сэр. — На бач. 2-ой надрукаваны дэкрэт — пазваленьне, дадзенае Радай Да Выкананьня Канстытуцыі Аб Сьв. Літургіі — Беларусам, што жывуць на эміграцыі.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

На «Б.Ш.» і на Фонд — С. А. Эванстон — $ 15. На «Б.Ш.» — Ч. К., (Бонн, Нямеччына) £ 1; Др. С. Г. (Клевэлянд) $ 10; Др. Я. Ст. (Брюклін) $ 5; М. Х. Н. (Голлівуд) $ 3; Др. Р. (Чыкаго) $ 10; С-іч (Саут Рывэр) $ 5; Др. Г. (Ітаска) $ 5.

Усім Дабрадзеям і Падпісчыкам — ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ!

---

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

(Рэдактар у варажбіткі)

*Раз пайшоў я на іспыткі*
*Да старэнькай варажбіткі.*
*Прашу: «Цётка, не на здраду —*
*Дай мне раду!*
*Мой Чытач чытаць-чытае,*
*А плаціць ён не шманае. —*
*Што рабіць?»*
*Стала бабка варажыць ...*
*Кажа: «Ты яго прыстыдзь!»*
*Кажу: «Стыдзіў раз да трох,*
*Але мусіць ён аглох?*
*Гаманіў як воўк у скрыні,*
*Як прарок той на пустыні».*
*«Вазьмі, кажа, дый пастраш!»*
*«Страшыў — толку ўсё нямаш:*
*Гэты крышку паддаецца,*
*А другі зь мяне сьмяецца ...»*
*Баба кажа: «Трэба біць!»*
*Я-ж кажу:*
*«Добра біць, каму баліць.*
*А Чытач той — з новым плянам —*
*Жыць пачаў за акіянам*
*І ў маёй жывой бядзе*
*Ані вухам не вядзе!»*
*Бабка кажа: «Тут ня жарты:*
*Дай-жа кінем мы на карты!»*
*Я-ж дрыжу і аж пацею —*
*Як сьлед, трачу ўсю надзею! ..*
*Цётка кажа на астатку:*
*«Бачу я дарожку гладку:*
*Прад табою — так прыгожа —*
*Ідзець стройна паміж збожа!*
*Бяжы сьмела „Божым Сьледам" —*
*Канец прыйдзе нашым бедам».*
*«Пацярпі, рэдактар мілы,*
*З цэлай сілы!*
*Ты працуй, а Бог паможа —*
*Табе розуму дaлoжa:*
*Зразумеюць посьле й людзі.*
*Як папосьціш, лепей будзе!»*
*Пакланіўся цётцы нізка. —*
*Цёмна ноч, дарожка сьлізка. —*
*Мне дамоў зусім ня блізка ...*
*Тут спужаўся-б мусіць кажны?*
*Але я —*

*ВІНЦУК АДВАЖНЫ!*

ЗЬМЕСТ:




Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.